НАША НІВА

*Беларуская газэта*

***№10, 1994***

**НОБЭЛЕЎСКАЯ ПРЭМІЯ** ў літаратуры сёлетні ляўрэат японец Кэндзабура Оэ, колішні — сэрб Іва Андрыч вера годны беларускі прэтэндэнт Васіль Быкаў

**ПЯЦЬ ЛЕПШЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ КНІГ** пасьляваеннага часу. Рэдакцыя «НН» правяла апытаньне сярод спэцыялістаў. Спаміж дзясяткаў кніг наичасьцей называліся наступныя. М.Ермаловіч. Старажытная Беларусь, Ю.Туронак Беларусь пад нямецкаи акупацыяй; М.Ермаловіч. Па сьлядах аднаго міфа; Н Улащик Очерки... і Введение

**МАГІЛЁЎСКІ НУМАР «НН».** Усю мінулую восень мы рыхтавалі наступны нумар газэты, які будзе прысьвечаны самаму беларускаму гораду ў Беларусі.

# КАРАЛЕЎСТВА БЕЛАРУСЬ



*Здымак з архіву Міхася Раманюка*



# АДСЯЧЭНЬНЕ ПРАСТОРЫ

Мікола Сердзюкоў

*I. Дзьверы*

Размова атрымалася працяглая. Яна яшчэ ня скончылася, калі Філёзаф сабраўся пайсьці. Узяўшыся за ручку дзьвярэй, ён нібы спавіты філязофскаю мглою павярнуўся да мяне и сказаў думаючы, што ўжо зусім на разьвітаньне

— Вы ставіце мне такія пытаньні, нібы я той, хто стварыў сьвет

Голас быў ціхі, амаль малітоўны шэпт Тады я спытаў у яго інача́й:

— А дзе той хто стварыў?

Рыгорыка Мяне, калі прызнацца, цікавіла іншае

*II Шкарлупіна*

Некалі мы з Валодзем Баброўскім, маім гомельскім сябрам, якога ўжо няма, сабраліся за Сож Каб дыхнуць вольнага ветрыку, паляжаць дзе на траве, гледзячы ў блакіт і на аблокі, паленавацца Толькі перайшлі мост — насустрач мужчына ня самага маладога веку Баброўскі штурхануў мяне ў плячо

— Зьвярні ўвагу Я табе пра яго сее-тое раскажу

Ну, ня вельмі высокі, з сытым жыворцкам, з плёхам — як зь медалём за выслугу гадоў Чаго глядзець... Уваччу ў мяне зьзялі-мітусіліся залатыя водбліскі, бо ідучы па мосьце, я пазіраў уніз, на раку, на асколкі сонца у дрыготкай вадзе

Нават заўзятаму гараджаніну зрэдку надакучвае горад бясконцая чарада твараў на шэрым асфальтавым фоне, нават заўзяты гараджанін зрэдку шукае іншыя аплікацыі. вунь жоўта-белае на зялёным — рамонкі, вунь лісьліва падбіраецца да іх фіялетавая бярозка... Ужо за мостам можна зрабіць вялікія адкрыцьці натураліста: у ліпені арабінавыя гронкі зусім жоўтыя (толькі ў жніўні зачэпяцца за іх чырвоныя іскрынкі), а зарасьнікі скрыпеню падобныя на сіне ружовыя вяршыні пірамід... Гані далей асацыяцыю пра Эгіпэт або зірні на мазаіку канюшыны (чаргаваньне ружовых і белых галовак) і перакруці думку на сучасную вытворчасьць плястмас І мне, урбаністу, ёсьць як разгуляцца на прыродзе

Валодзя крыху заблытаў асацыяцыі

— Прозьвішча мужчыны Капцэвіч Інжынэр. Да пары ўсе знаёмыя лічылі яго разважлівым і сур'ёзным Раптам — здарэньне.. Як бываюць звычайнае Дакладней са звычайнага атрымалася не паймі-разьбяры У лесе, гуляючы, ён раскусваў дзецям арахі й закашляўся Чаго? Што? Шкарлупіна трапіла, як кажуць мэдыкі, у дыхальныя шляхі. Але неўпрыкмет, ён не асэнсаваў гэтага!

Ідзе час, прыступы кашлю не сьціхаюць Паласкаў горла, грэў — усё адно У кватэры ці ў канструктарскім аддзеле, дзе ён сядзеў з калегамі, мэбля трэслася ад ягонага буханьня. Інгаляцыі, электрапрацэдуры таксама не памаглі Мэдыкі зьнялі на рэнтгенаўскія здымкі лёгкія Нічога. У рэшце рэшт трапіў інжынэр на апэрацыйны стол, хірург распаласаваў бедака ды зноў зашыў ня ўбачыўшы ніякага страху

*Працяг на старонцы 4*

# АДСЯЧЭНЬНЕ ПРАСТОРЫ

*Працяг са старонкі 1*

У нас жа як У нас мэдыкі ўтойваюць ад хворага, калі ў яго рак. Разразаюць, глядзяць, зашываюць і пацiскаюць плячыма. Маўляў, нічога няма А людзі падазраюць нядобрая хвароба

Ад сумных думак і прыступаў Капцэвіч схуднеў, ягоная схуднеласьць як бы пацьвярджала найгоршыя падазрэньні Што рабіць Жонка ўгаварыла самага вопытнага ў горадзе хірурга яшчэ раз праапэраваць інжынэра Але й самы вопытны хірург, ня ўбачыўшы паталёгіі, разьвёў рукамі.

Пасьля другой апэрацыі інжынэр кінуў працу, кінуў сваю таўстуху-жонку і перабраўся жыць да чарцёжніцы з аддзелу, на чые калені заўсёды пажадліва заглядаўся. Жыцьцё яго цалкам зьмянілася: нуль паважнасьці й памяркоўнасьці Ён вудзіў рыбу, хоць прыступы й перашкаджалі гэтаму занятку, прадаваў улоў і купляў выпіўку, акрамя таго, трохі даваў у каршэнь сваёй маладой палюбоўніцы, калі выпіўка скончалася Суседзі-забулдыгі ставіліся да яго з павагай хоць перад сьмерцю кінуў усяго баяцца і жыве па-людзку

Імыць амаль неверагодна, аднак яму зрабілі й трэцюю апэрацыю Таму што. Я хацеў з разгону напісаць «таму што мэдыкі вывучаюць уплыў радыяцыі на нас». Але ўспомніў, што гісторыя Капцэвіча дачарнобыльская Яму зрабілі трэцюю апэрацыю, таму што жонка не супакоілася Ведаючы, што пухліны няма, яна праявіла ўпартасьць і ўгаварыла зусім маладога хірурга, зусім студэнціка, і ён знайшоў-такі шкарлупіну. Справа ў тым, што засела яна недзе на пераходзе бронхі лёгкія Як на гарадзкіх скрыжаваньнях найчасьцей жа машыны б'юцца

Здаровы пачатак хутка ўзяў верх, інжынэр Капцэвіч зноў уладкаваўся у канструктарскі аддзел, вярнуўся да жонкі й дзяцей

Пакуль Баброўскі распавёў мне гісторыю інжынэра, надвор'е крыху сапсавалася: на сонца насунулася хмурынка, паплылі над вадою касмылі туману Але ж — галоўнае — дажджу не было, мы выбралі месцайка й неблага адпачылі.

— Як ты даведаўся пра Капцэвіча?

— Выпіваў зь ім у тыя часы

У маёй кішэні ляжаў нататнік, але я не крануў яго Банальная гісторыя: захварэў чалавек — запіў вылечыўся — кінуў Або наадварот...

*III Працяг часткі «Дзьверы»*

Калі Філёзаф, сказаўшы фразу, што ён ня Бог, прачыніў дзьверы, я ўбачыў у шчыліну дзіўны геамэтрычны ўзор Як бы ня наш сьвет нават... Падрабязьней пра незвычайную геамэтрыю напішу ў апошняй частцы, а цяпер толькі прызнаюся, што ў абрысах тых ліній і перакрыжаваньняў стаяў ня хто іншы, як Валодзя Баброўскі Там — за дзьвярыма Папраўдзе, то дзе ж яму й быць, як не за дзьвярыма, калі ён памёр. Спалатнелы стаяў Ліні, перакрыжаваньні й яшчэ, калі не памыляюся, шчодра азоранае неба, тугі й высокі касьмічны павеў Карыя вочы Баброўскага ашклянелі.

— Ты нічога тады ня ўцяміў пра інжынэра Капцэвіча Прааналізуй ня першае яго пераўтварэньне з развадлівага, сур'ёзнага чалавека ў п'яніцу й гуляку, а менавіта другое, назад. Прааналізуй яго вяртаньне да так званага нармальнага жыцьця Вось дзе цуд! Вось страх! Ён зноў прызвычаіўся жыць так, нібыта сьмерць дае доўгія адтэрміноўкі, разумееш?

*IV Усё застаецца людзям*

У высокага дзяржаўнага кіраўніка адкрылася невылечная хвароба, ён дажываў апошнія свае дні на казённым лецішчы Высахлы, з утуленай у плечы галавой — у чаканьні рашучага, самага неміласэрнага ўдару лёсу І думкі нібыта скурчыліся ад перадсьмяротнай журбы, нібыта паміралі раней за чалавека

Быў празрысты халаднаваты восеньскі дзень У каміне палалі дровы, на невялічкім дыване ляжаў буйны аўчар з чорнай поўсьцю на хрыбціне Жонка высокага кіраўніка замест фіззарадкі грэбла ў садзе пажоўклае лісьце, кухарка на кухні нягучна бразгала посудам Звычайны дзень Каля форткі таптаўся маладзенькі міліцыянт — ахоўнік лецішча

Хворы чалавек жыў вачыма Вось жонка, лістота, міліцыянт, палоска неба, ахопленыя полымем дровы, выкрашаны зялёнай фарбай штыкетнік, фортка, за якую ўжо ня выйсьці. Аўчар у цяпле салодка драмаў. На паліцах стаялі кнігі — у іх знайшлася б любая мудрасьць, акрамя адной... Па чорнай поўсьці аўчара, па залачоных карэньчыках кніг мітусіліся водбліскі агню І невядома, ці можна было назваць думкай здагадку гаспадара лецішча, што аўчар перажыве яго чалавека Мільганула нешта

Зьнікла з вачэй жонка Сабралася некуды дзяўчына-кухарка Накінула на плечы сьветлы палітон і, прыгожа віляючы клубамі, выйшла за фортку Міліцыянт жартам заступіў ёй дарогу, пачаў заляцацца, абдымаючы дзяўчыну за плечы У яго былі круглыя й цёмныя, як алівы, вочы, здаровыя чырвоныя шчокі, у яе каштанавыя, як мора хвалістыя валасы. Маладая жыцьцярадаснасьць, здавалася, пырскала з абаіх, як пырскае сокам налівы яблык, калі кусаюць яго — зноў жа — маладыя, моцныя зубы

Высокі кіраўнік заплюшчыў вочы Зашэрхлая скура, шкляная сьляза

— Марыначка Ну чаму ты...

— Вой, пусьці. Не чапай, ха-ха...

Заторгаліся на шэрым твары кіраўніка жалвакі, ён дацёгся да дзьвярэй і, расчыніўшы іх, паклікаў аўчара

— А ўвечары?

— Багата захацеў...

Каб хоць не яго аліўкавыя вочы, не яе голас — як званочак Гаспадару чорныя павукі падавалі іншыя сыгналы, яму званілі іншыя званы Дзяўчына весела матляла валасамі, а сьмерць, безвалосая, прайшла ў дом міма яе А можа, сьмерць і не была жанчынай, не была істотай, яна ўяўлялася хвораму толькі сьмярдзючым пахам з уласнага роту, толькі гнільлём у жываце

Аўчар, які туліўся моцным целам да гаспадаровай нагі, раптам атрымаў удар мыліцай Ён ажно прысеў на заднія лапы й пырснуў жоўтым

— Фас! Узяць іх! Фас!!!

Тады была цэнзура, таму газэты пра гэтае здарэньне не напісалі. Затое хадзілі чуткі, што мэдыкі міліцыянта доўга лячылі Твар яму з лапікаў скуры сшылі

Што хворы на хвіліну звар'яцеў, то зразумела, але ж і маладосьць у нас нейкая вар'яцкая, сьмяюцца бязь меры й не да месца А зрэшты, што тут да месца — хто вырашыць і падкажа, хто прыдумаў гэтую вар'яцкую зьяву? Якую? А такую Самі не пазьбегнеце... Сьмерць

*V Заканчэньне часткі «Дзьверы»*

— Вы ставіце мне такія пытаньні, нібыта я той, хто стварыў сьвет А я так мала ведаю! Напэўна ўсё, да чаго я дафілязофстваваўся, зводзіцца да вельмі простай здагадкі: ці не пустата наш сапраўдны стваральнік? Не? Вы самі як лічыце? Пыркі часу, разьлятаючыся ў пустаце, менавіта ёю й пераўтвараюцца ў людзей У нас з вамі Пыркі часу Ведаеце, у юнацтве я ўзлазіў на дах нашага двухпавярховага дому и хаваўся ў таполевай кароне Ага, высокая расла таполя Гадзінамі сядзеў. Ветрык, лістота шапоча Сьвятло, паветранасьць Мы жылі каля ракі, таму з даху я бачыў і



*Літаграфія Дзяніса Раманюка*

яе, бачыў паплавы за ёй, вольхавыя грывы, нітку шасэйкі Я плакаў, ужо тады здагадваючыся, што ніхто й ніколі не пераробіць жыцьцё. Амаль усё яно яшчэ ляжала перада мной наперадзе, а я ўжо намацаў галоўную яго складовую — пустату. Пыркі часу ў пустаце аднолькава лёгка фармуюцца і зьнікаюць, нібыта выпарваюцца Вось і ўсё

— Калі гэта ўсё, то навошта ваша філязофія і мая літаратура?

— Чаму Людзям шмат што патрэбна, пакуль людзі жывыя А навошта яшчэ?

— І па-за межамі плянэты ёсьць гульня формаў, дзейнічаюць законы

— Кіньце!

— Тады навошта пісаць?

— А як вы адказваеце на сваё пытаньне?

— Ніяк Я часьцей думаю, пра што пісаць. Карыстаюся адным штучным прыёмам... Як бы пытаюся ва ўяўных жыхароў далёкіх зямель ці зусім ужо наступнікаў, што ім цікава, што яны хацелі б даведацца ад мяне Яны удакладняюць «А дзе і у які час ты жывеш?» Калі я кажу што у Беларусі напрыканцы дваццатага стагодзьдзя, то мае ўяўныя суразмоўцы ўспамінаюць Чарнобыльскую атамную станцыю. Значыць, я павінен пісаць пра катастрофу

— Прыехалі Вы спрачаецеся або згаджаецеся са мной? Чарнобыль — гэта толькі адно зь імёнаў сьмерці.

— Атрымліваецца, што я згаджаюся?

— Вы здольны пісаць пра яе? Вы зазірнулі?

— Куды?

— Як вам растлумачыць Калі вы пытаецеся, то ўжо адным гэтым сьведчыце: не зазірнулі

*VI Зь Філёзафам на вуліцы*

Ён зачыніў за сабой дзьверы, але й я не застаўся ў кабінэце — дагнаў Філёзафа на вуліцы

— Я таксама хачу даверыць вам адну гісторыю, — сказаў ён — Тая, вашага сябра Баброўскага, мне спадабалася, але ў мяне ёсьць свая, таксама зьвязаная з выпіўкай Мне ў дзяцінстве прыклеілі мянушку — Моташны Ня сьмейцеся Хай мая гісторыя стаіць у вашым аповедзе сёмай Назавіце яе

*VII Алкаш і Моташны*

Людзі нараджаюцца розныя і філёзафы, і ёлупні зь філязофскім ухілам Алкаша празвалі Алкашом рана, ён зь дзяцінства губы ў гарэлцы мачыў. І разважаў з філязофскай «падшэўкай»: «Чалавеку трэба ўсё паспрабаваць» А Моташны ня тое, што да гарэлачнай бутэлькі, а й да цыгарэты баяўся дакрануцца, затое філязофскія кніжкі чытаў

— Дрэнь твая навука! — казаў Алкаш — Зуброж-выпяндрож! Сэнс жыцьця яму падавай... Які, га? Твой сэнс, як сьнежны чалавек: ніхто яго ня бачыў, а ўсе ім адзін аднога застрашваюць

Гэтыя двое часьцяком спрачаліся проста ў двары Алкаш амаль кожны дзень чапіўся. Моташны калі адказваў яму, а калі махаў на яго рукой і даводзіў іншым, разумнейшым хлопцам

